Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 27 | Срада, 24-га Верасьня 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.



## Добры пачатак.

Роўна тры месяцы назад пачала выходзіць нашая газэта, паставіўшая сабе мэту — арганізаваньня ўсіх жывых беларускіх грамадзкіх сіл, аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных элемэнтаў нашага народу, лёс якога ў Заходняй Беларусі быў аканчальна заведзены ў тупік палітыканствам тых беларускіх дзеячоў, якія чамусьці лічылі сябе манапалістамі на беларускі рух.

Гэта з аднаго боку.

А з другога — тупік павялічгаўся адсутнасьцю яснага разуменьня беларускага адраджэнскага руху як палітычнымі ды ўрадовымі сфэрамі Польшчы, так і ўсімі абсолютна палітычнымі і грамадзкімі групіроўкамі польскага грамадзянства.

Мы зьвярталі ўвагу на тое, што з боку ўлады ўсё беларускае натыкалася на нейкую агульную падазроннасьць, а з боку беларускага — падазронасьць гэтая падмацоўвала сваё права на існаваньне шляхам замыканьня беларускай справы ў рамкі усё больш і больш цесныя, шляхам бясплоднага мітынгаваньня беларускіх паслоў Сойму сярод выбраўшага іх насяленьня ды аднабокіх выступленьняў сяброў Беларускага Пасольскага Клюбу ў самым Сойме.

Воз нашае нацыянальнае справы заграз на месцы і яго трэ' было скрануць, трэ' было выбрацца з ім на гэткі шлях, які вывяў-бы справу з тупіка.

Патрэбна была незабаўная арганізацыя саміх беларускіх масаў, іхні жывы кантроль над тымі, хто спрытна паапранаўшы на сябе тогі нацыянальных і палітычных дзеячоў, пачаў крычаць на ўсе бакі, што даная толькі група — віленскае *арганізаванае* беларускае грамадзянства ў постаці Віленскага Нацыянальнага Камітэту зьяўляецца *сольлю* зямлі Беларускай.

Што гэта *соль* нязвычайна горкая і што яна абсолютна ўсё і ўсюды перасольвала—аб гэтым дасюль няшмат хто й дагадваўся.

Бягучае народнае жыцьцё, праўдзівыя інтарэсы беларускіх масаў адходзілі на задні плян у дзейнасьці Беларускага Пасольскага Клюбу, якому ад нечага закруцілася ў галаве, пачаўшай шукаць разрашэньня беларускага пытаньня ня ў тэй ці іншай рэальна-творчай працы ці ў вышуканьні грунту для гэтай працы, а ў простым краснабайстве перад масамі і ў безварунковай опозыцыі да ўсяго, з чым паном паслом, у сілу свае высокае місіі, прыходзілася мець справу ў Сойме.

Лячыць ненармальнасьці нашага жыцьця ў Польшчы панове паслы ня зьбіраліся цераз тыя ці іншыя практычныя захады, а раздувалі нацыянальны антагонізм нялічанымі інтэрпэляцыямі з трыбуны ды дэмагогічнымі выступленьнямі на сялянскіх мітынгах.

Жыцьцё брала сваё. І яно змусіла простую беларускую грамадзкую інстытуцыю — Беларускае Грамадзянскае Сабраньне ў Вільні — ўзяць на сябе ініцыятыву дзеля стварэньня іншага беларускага палітычнага шляху, які больш адпавядаў-бы сапраўдным інтарэсам роднага народу, які вырысаваўся на фоне ўсяго нашага акраіннага жыцьця, што й цяпер яшчэ патрабуе хуткае і неадкладнае паправы.

Ня гледзячы на самае беспардоннае „вешаньне сабак“ на Беларускае Грамадзянскае Сабраньне тымі, хто пачуў для сябе сьмяротную небясьпеку разьвянчаньня свайго штучнага беларускага аўторытэту, само Сабраньне цьвёрда захоўвала сваю палітычна-грамадзкую пазыцыю, глыбока верачы ў яе правільнасьць.

І сягоньня пачынаюць сказвацца рэзультаты нашага покліча да разумных слаёў беларускага грамадзянства, да аб'яднаньня ўсіх жывых беларускіх грамадзкіх сіл у мэтах абароны законных правоў Беларускага Народу, зьвязанага лёсам з жыцьцём Польскае Дзяржавы.

Конфэрэнцыя прадстаўнікоў беларускіх дэмакратычных партыяў, арганізованага сялянства й інтэлігэнцыі, адбытая ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні 21-га гэтага верасьня, прызнала патрэбнасьць скліканьня зьезду Заходняй Беларусі ў бліжэйшай будучыне, утварыўшы разам з тым Часовую Беларускую Раду дзеля арганізаваньня гэтай справы і дзеля разрашаньня тых пытаньняў нашага нацыянальнага жыцьця, якія ня могуць цярпець ніякага адкладу.

І сапраўды — гэткая, напрыклад, палючая рэч, як нашы школьныя патрэбы, стукае ў вакно, дае аб сабе ведаць з кожнае хаты беларускага селяніна, які ня хоча, каб дзеці яго раслі ў цемры й няведаньні нічога большага, чымся ён сам.

Селянін беларускі ня можа спакойна паглядаць на асаднiцтва ды чакаць без канца поўнага правядзеньня, ўжо вырашанай у Польшчы, зямельнай рэформы.

Селяніну й інтэлігэнту нашаму шмат лягчэй будзе дыхаць, калі зробяцца фактам гэткія магутныя рэгулятары мясцовага жыцьця, як органы самаўраду.

Аздараўленьне краёвай адміністрацыі цераз ачышчэньне яе ад элемэнтаў, чужых для краю і нічога ня цямячых у яго жыцьці, насьпела не сягоньня.

А разумнае безбалочае правядзеньне ўсіх хаця-бы толькі пералічаных вышэй момэнтаў у жыцьцё ня можа адбыцца без узаемнага паразуменьня паміж беларусамі, польскімі ўладамі і польскім дэмакратычным грамадзянствам.

Паразуменьне гэтае мусіць адбыцца якнайхутчэй, бо прамаруджана даволі шмат часу.

І ў гэтым кірунку тое, што зрабіла беларуская конфэрэнцыя 21-га верасьня, зьяўляецца добрым актыўным пачаткам.

Далейшыя крокі Часовай Беларускай Рады, выбранай на конфэрэнцыі будуць пастолькі мець удачу, паскольні сапраўды зьнікнуць перашкоды на шляху яе да пастаўленых заданьняў.

---

## ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

У чацьвер 1-га кастрычніка адбудзецца пленарнае паседжаньне пасольскага клюбу Народна-Нацыянальнага саюзу (Z. N. L.). На парадку дня палітычная сытуацыя.

Льготныя тарыфы на перавоз насеннага збожжа на Паморы і Малапольшчы прадоўжаны да канца бягучага месяца. Дадаткова да гэтых тарыфаў далучаны: Беласток, Горадзен і Ваўкавыск, якія маюць карыстацца скідкаю 25% пры справаджаньні насеннага збожжа.

Як падае „Dzien. Wil.“ ў найхутчэйшым часе будзе установлены склад дырэкцыі і кіраўніцтва аддзелаў дзяржаўнага сьпіртавога манаполю. На пасаду дырэктара дзяржаўнага сьпіртавога манаполю выстаўляецца кандыдатура п. Падкаморскага з Пазнані, дырэктара аднаго з гарэлачных бравароў.

У інспэктарацe працы 1-га вокругу ў Варшаве адбылася ўчора конфэрэнцыя па справе ўмовы ў млынарскай прамысловасьці. Працаўнікі выставілі трэбаваньне падвышкі заробку на 20 проц. А прамыслоўцы згодны даць ім падвышку паводлуг аблічэньняў падвышкі коштаў статыстычнае камісіі.

### За граніцай.

Прэзыдэнт **Фінляндыі** Стольбэрг заявіў прадстаўніком прэсы, што ён адмаўляецца ад паўторнага выстаўленьня свае кандыдатуры на прэзыдэнта пры новых выбарах.

16 верасьня ў сталіцы **Чэхаславакіі** — Празе камуністычная партыя зрабіла дэмонстрацыю проці дарагоўлі. Дэмонстранты былі расьсеяны паліцыяй. У прадмесьцях паміж дэмонстрантамі й паліцыяй адбываліся спатычкі. Паліцыя не дапусьціла рабочых з прадмесьцяў у цэнтр гораду. Некалькі чалавек арыштована.

У лістападзе ў фінляндзкай сталіцы **Гэльсінгфорсе** адбудзецца конфэрэнцыя міністраў заграпічных справаў прыбалтыцкіх рэспублік.

**Турэцкі** ўрад забараніў прыезд у Ангору і ў пагранічныя з С. С. Р. Р. вакругі. Прапушчаюцца толькі асобы, якія маюць асобныя пазваленьні. Прычына забароны — перагрупіроўка войска ў зьвязку з паўстаньнем у **Грузіі**.

Паміж **Швэйцарыяй** і **Італіяй** адбываюцца цяпер перагаворы аб заключэньні трактату аб трацейскім судзе. Дасягнена прынцыпіяльнае паразуменьне, так што падпісаньне дагавору адбудзецца ў блізкай будучыне

# ПАСТАНОВА

**прадстаўнікоў беларускіх дэмакратычных партыяў, арганізованнага сялянства і інтэлігэнцыі на конфэрэнцыі, якая адбылася у Вільні 21 верасьня 1924 г.**

Прымаючы пад увагу: 1) што цяперашняя сытуацыя ў Заходняй Беларусі ставіць як Польскую Дзяржаву, так і Беларускі Народ перад грознай небясьпекай, якая йдзе са ўсходу ў постаці неакелзанага бандытызму, небясьпечнай антыдзяржаўнай агітацыі і магчымасьці наступленьня неспадзяваных катаклізмаў; 2) што падобная сытуацыя выклікана няправільным палітычным кірункам і тактыкай Беларускага Пасольскага Клюбу ў Польскім Сойме з аднаго боку і адсутнасьцю ў Польскага Ураду і польскага грамадзянства выразнай палітычнай праграмы па беларускім пытаньні—з другога; 3) што парлямэнтарная тактыка беларускіх паслоў не адпавядае нацыянальным ідэалам і ўсім жыцьцёвым інтарэсам беларускага насяленьня ў Польшчы, якое патрабуе перш за ўсё залячаньня ранаў, нанесеных войнамі і жадае спакойнае працы на родных нівах пры варунках правядзеньня ў жыцьцё ўсіх конституцыйных гарантыяў; 4) што законы аб мовах нац. меншасьцяў, хаця і не ахапляюць сабою ўсіх законных жаданьняў беларуск. народу, аднак-жа зьяўляюцца першым крокам наперад на шляху белар. адраджэньня; 5) што незабаўнае правядзеньне гэтых законаў у жыцьцё зьяўляецца пытаньнем гістарычнае вагі і можа быць фундамантам, на якім будзе збудована наша нацыянальная будучына; 6) што ў сучасны момант, у зьвязку з законамі, прынятымі ў законадаўчых органах Польскай Рэспублікі пры рэзкай опозыцыі Беларускага Пас. Клюбу, вядучага сваю палітычную гульню, не зьвяртаючы ніякае ўвагі навет на элемэнтарнейшыя жаданьні беларускага народу, які ў першую чаргу дамагаецца роднае школы, зямельнай рэформы, мясцовага самаўраду і інш., — насьпела патрэбнасьць гэткае белар. палітычнае арганізацыі, якая аб'яднала-б усе дэмакратычныя слаі беларускага насяленьня з мэтай рэалізацыі вышэйпомненых народных жаданьняў,

Конфэрэнцыя прадстаўнікоў ад бел. дэмакр. партыяў, арганізованага сялянства і інтэлігэнцыі пастанаўляе: 1) стварыць Часовую Беларускую Раду, якой даручыць кіраваньне ўсімі справамі нацыянальнага белар. жыцьця да часу скліканьня зьезду Зах. Беларусі, які павінен будзе выбраць сталае палітычна-нацыянальнае прадстаўніцтва; 2) даручыць Час. Белар. Радзе ўвайсьці ў зносіны з адпаведнымі прадстаўнікамі ўлады і польскіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, дзеля найхутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх артыкулаў Дзяржаўнай Конституцыі, якія забясьпечваюць Беларускаму Народу нацыянальныя правы, а таксама й законаў аб роднай мове, парушэньня справы зямельнай рэформы і мясцовага самаўраду, спыненьня асадніцтва і наагул аздараўленьня варункаў краёвага жыцьця.

---

При кодыфікацыі ў Лізе Народаў дадатку да 12 параграфу статуту Лігі, рэдакцыйны юрыдычны камітэт дайшоў да паразуменьня, што з гэтага часу законнаю вайною зьяўляецца толькі агульны збройны націск на нападаючага альбо спраціўленьне проці атакаваўшага.

**Нямецкі** урад, уваходзячы ў Лігу Народаў, мае выставіць пэўныя варункі, сярод якіх будзе дамаганьне на толькі заўсёднага месца ў Радзе Лігі, але таксама й новага падзелу коленіяльных мандатаў, як і звароту немцам некаторых коленіяў. Апрача таго немцы патрэбуюць ад Лігі Народаў, каб яна запрапанавала ўсім ваяваўшым дзяржавам, адкрыць тайныя архівы і гэткім чынам палегчыць дакумэнтальнае устанаўленьне віноўнікаў вайны.

Паводлуг весткі з **Бэрліну**, былы расейскі вялікі князь Кірыла Ўладзіміравіч, называўшы сябе да апошняга часу „блюстителем российскаго престола", выпусьціў маніфэст, у якім ён абвяшчае сябе „царом усіх расейцаў".

Ангельскі дэлегат у Лізе Народаў лёрд Пармур заявіў у гутарцы з корэспондэнтам „Daily Express", што Англія паранейшаму павінна заставацца гаспадыняй свайго флёгу. Як марскія, так і сухапутныя сілы павінны быць у выняткова распараджэньні ўраду, які ў даны час трымае ўладу.

Прэзэс **літоўскае** дэлегацыі ў Лізе Народаў Гальванаускас заявіў, што ён ня лічыць літоўскае спрэчкі з **Польшчаю** вырашанай аднабокай пастановаю конфэрэнцыі паслоў, якая для **Літвы** не мае ніякае юрыдычнае сілы. Літоўцы ня бачаць іншага выхаду з палажэньня, як передача ўсяе спрэчкі на рашэньне гаагскага трыбуналу. Пакуль ня будзе ўрэгулёваны конфлікт Літвы з Польшчаю з-за Віленшчыны, дык адносіны іхнія не палепшацца. Адсутнасьць і консульскіх і дыплёматычных зносін з Польшчаю творыць вялікія труднасьці ў гандлёвым сэнсе.

**Лёнданская** управа палаты заграпічнага гандлю аднагалосна прыняла рэзалюцыю проці ратыфікацыі англа-савецкага дагавору.

„Daily Tel." паведамляе што паміж **Рымам** і **Каірам** адбыўся абмен нотамі, якія носяць прыяцельскі характар. Камісія дзеля вызначэньня дэмаркацыйнае лініі яшчэ натыкаецца на дробныя труднасьці.

Венская газ. „Der Morgen" паведамляе з **Шанхаю**, што ўночы на 22 верасьня адбываўся страшэнны бой каля Шанхаю. Войску провінцыі Цзянг-Су ўдалося перарваць фронт праціўніка. Пачаўся абстрэл места. Абаронная пазыцыя перад местам умацована драцянымі загарадкамі з электрычным токам. Губэрнатар Сэт-Янг налажыў на купцоў прымусовую пазыку, пагражаючы арыштам пры адмове ад падпіскі. Перадавыя аддзелы арміі Чан-Со-Ліна знаходзяцца ў 115 кілёмэтрах ад Пэкіну.

Выбары да самаўраду у **Літве** скончаны 20 гэт. верасьня.

Паводлуг апошніх вестак з гішпанскага фронту ў **Мароко**, Тэтуан саўсім аблажаны кабілямі. Гэн. Прыма-дэ-Равэра знаходзіцца ў цяжкім палажэньні.

Паводлуг тэлеграфнай весткі з **Грузіі**, ў вокрузе Сэнакі, ўдоўж ракі Кадоры, некалькі тысяч паўстанцаў затрымалі наступ чырвоных войскаў. Грузіны, арыштованыя ў крэпасьці **Батуме**, выламалі вастрожныя брамы і паўцякалі.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не паляннуйся прачытаць напісьменнаму!*

# Агляд прэсы.

Obiit leo, natus et canis.
(Памёр леў, нарадзіўся сабака).

Урэшце справа Савінкова, якая доўгі час была тэмай для розных артыкулаў, фэльетонаў і г. п., закончылася. І няма дзіва, што савінкоўская справа так доўга не выходзіла са шпальтаў польскіх, а асабліва расейскіх газэтаў: Савінкоў быў адным з важнейшых павадыроў расейскага эміграндкага анты-бальшавіцкага руху, і з яго пераходам на бок саветаў, расейская эміграцыя ня толькі трациць свайго павадыра, але зьяўляецца небясьпека, што яго прыклад можа пацягнуць за сабой іншых.

Але пытаньне аб тым, ці Савінкоў узапраўды перайшоў на бок бальшавікоў, ці бальшавікі выкарысталі толькі яго імя дзеля сваіх прапагандных мэтаў, аканчальна вырашае ягонае пісьмо, перададзенае рэдактару расейскай газэты „За Свободу" Філосафаву.

Вельмі цікаўны абставіны, пры якіх Д. Філосафаву было даручана пісьмо Барыса Савінкова. Зьявілася да яго нейкая маладая жанчына, якая асабіста хацела пабачыць Д. Філосафава. Але дзеля таго, што яна не хацела сказаць свайго прозьвішча, яе да рэдактара не дапусьцілі. Тады яна пакінула пісьмо ў двох канвэртах, з якіх унутраны быў заадрэсованы рукой самога Савінкова.

У гэтым пісьме С. стараецца разьясьніць прычыны, якія прымусілі яго перайсьці на іншы бок. Аб гэтых прычынах шмат ужо пісалася, дзеля гэтага ня цікаўна будзе паўтараць лішні раз старое. Больш цікаўны адказ Д. Філосафава.

„Kurjer Poranny" у адным з апошніх нумароў запаўняе гэтай справай амаль што ня ўсю старонку газэты і між інш. зьмяшчае адрыўкі гэтых цікаўных пісьмаў. Мы друкуем адказ п. Ф. паводле гэтай газэты.

Вось самыя характэрныя момэнты пісьма Філосафава:

> Дзякую Вам, што Вы перарвалі мае мукі няпэўнасьці і паведамілі мяне, што не са страху, але за цану сумленьня Вы перайшлі на бальшавіцкі бок.
>
> Дзякую таксама і за тое, што Вы ўрэшце адчынілі мне вочы і далі мне ўсе падставы, каб лічыць Вас чалавекам скончаным і ў палітычным і ў моральным сэнсе. Супрацоўніцтва з Вамі аб раскошах бальшавіцкага ладу цяпер ня будзе. Дык-жа ані на судовым спэктаклі, ані ў пісьме да мяне, Вы

---

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 26 „Грам. Голасу").*

Месячык сьвяціў з-за хмаркі. Зоркі дзеня-дзе бліштэлі...

Сьціхлі думкі, сум толькі застаўся, а душа ўсё слухала казкі лесу і ён шаптаў ёй: Слухай толькі мяне...

## XXXV.

### Лес шапоча.

Аб чым ён кажа, куды кліча так доўга нас? Якую таемную быль хоча нам расказаць? Пра дзеі прадзедаў маіх? Мо' пра лік сваіх магіл, а мо' пра тое, аб чым марыць увесь час душа?..

Хто зразумее яго? Хто прыдзе на покліч?

Ось зноў ён шапоча — ня слухаць яго ня можа душа...

Штосьць вялікае узымаецца ў грудзёх, быццам хутка зразумее душа, аб чым шапоча, чаго хоча, куды кліча стары, цёмны лес!..

Кажы, кажы, мілы лес, сэрцу хутчэй свае казкі...

Ад твайго голасу душа ясьнее і думкі сьмелыя паўстаюць...

Кажы нам, лес, хутчэй!

Навучы, як ратаваць старонку, як пабудзіць братоў ад сну, як вызваліць з нядолі і кайданоў братоў... Навучы нас быць сьмелымі!

Пакажы той шлях, па якім-бы пайшоў увесь наш народ да лепшае долі, знайдзі той сьцяг, за якім ішлі нашыя прадзеды!

Дай нам магчымасьць хутчэй зразумець цябе!

Шапоча лес нам казкі цудоўныя, казкі, мудрыя!

— Сябры! У кім б'ецца сэрца брата-беларуса, той даўно ўжо зразумеў таемныя казкі лесу і чакае, пакуль ня дасьць ён знаку пачаць тварыць тое, што пачалі прадзеды!

Стаць цьвёрда на той шлях, на якім шмат ляжыць байцоў за край наш родны, край загнаны!

Па ім ісьці нам трэба, там знойдзем мы патрачаны наш сьцяг...

Яго падняць павінны мы! Падняць высока, каб усім яго відаць было!

Каб ведалі ворагі, што ня згінуў дух волі ў сэрцах маіх братоў, што даб'ёмся мы волі старонкі і сьцяг наш горда будзе зьвяць!..

Дык шапчы, лес! Шапчы далей свае нам казкі! Табе мы дзякаваць будзем, што навучыў нас выбрацца з нядолі...

## XXXVI.

### Хмара ідзе.

Ня відаць сьвету, цёмна зрабілася ў лесе.

Панура загудзеў стары лес, затрашчалі галіны, зашамацела лісьцьцё, сьціхлі птушкі.

Вецер сярдзіта выў, стараючыся вырваць на волю з моцных абцугоў лесу—але бароўся, трымаў яго лес, б'ючыся з непагодай.

Горда стаяў ён, гледзячы на сьмерць сваіх сяброў і біўся далей з бурай.

мала дзела да беларусоў. Апанаваўшыя шовіністычныя тэндэнцыі ўзялі перавагу: істнаваўшыя інстытуцыі і арганізацыі былі зьліквідованы, школы зачынены, беларускія газэты перасталі выходзіць і наагул амаль ня ўся легальная беларуская праца была спынена. Гэтую рэзкую перамену ўраду да беларусоў добра скарыстала ўсходняя орыентацыя на Менск, а яшчэ лепш скарыстала сама Радавая Беларусь... Падыйшлі выбары ў Сойм і... была створана 16-ка. Яна дала 11 беларускіх паслоў і... стварыла няпрыступна варожыя адносіны амаль не ўсяго польскага грамадзянства наагул да беларусоў. „Беларускі Пасольскі Клюб“, разумеючы сваю пазыцыю, з пачатку свае працы зрабіў крокі, каб аслабіць прыкры цень, які падаў на яго ад 16-кі. Клюб ў сваёй першай дэкларацыі праз свайго старшыню п. Тарашкевіча заявіў аб сваёй лёяльнасьці да Польскай Дзяржавы. Але падышоў Беластоцкі працэс, які фактамі абесцаніў гэтую дэкларацыю.

Зноў была зроблена спроба умяркованым кірункам клюбу дайсьці да згоды з польскім грамадзянствам; творыцца „Польска-Беларускае Таварыства“. Але крайні кірунак клюбу адказвае на гэта шалёнай опозыцыяй,— і абурэньнем, скідае з становішча старшыні клюбу п. Тарашкевіча і высоўвае на яго месца дзіўную кандыдатуру — нейкага п. Рагулю, чалавека да гэтага момэнту на беларускім полі навет ніколі нявіданага. Праўда, з таго момэнту, замест польска-беларускага паразуменьня, прапанованага п. Тарашкевічам і сэнатарам, старым беларускім дзеячом, Уласавым, беларускі пасольскі клюб навязвае моцны контакт з клюбам украінскім, які адкрыта падкрэсьлівае свае сымпатыі да камуністаў... Дабавіўшы да гэтага яскрава дэмагогічныя прамовы некаторых п. н. паслоў пры візытацыі імі выбаршчыкаў, і закулісную ігру клюбу ў „вялікую палітыку”, стане зусім зразумелым, што ўсё вышэйпаданае не магло надта прыцягваць да сябе сымпатыі навет лявіцовых партыяў і радыкальнага польскага грамадзянства.

Гэткім чынам, Беларускі пасольскі клюб ў сваёй парлямэнтарнай працы аказаўся зусім ізолёваным. А што маглі зрабіць 11 беларускіх паслоў (хаця бы з імі галасавала ўся быўшая 16-ка) без падтрыманьня іх польскімі радыкальнымі партыямі? Агульнае-ж мовы з польскімі партыямі беларускім клюбам знойдзена ня было. Хутка зьявіліся рэзультаты „вялікай палітыкі“. І рэзультаты сталі адчуваць усе куткі Беларусі... Гэткім чынам, тыя каго народ беларускі паслаў бараніць яго жыцьцёвыя інтарэсы, ня толькі ня выпаўнілі гэтае першае свае задачы, але і самі ўбіліся ў такі тупік, з якога хіба што ня лёгка знайсьці выхад.

Есьць яшчэ адна інстытуцыя, гэта так званы Беларускі Віленскі Нацыян. Камітэт. Але з гэтай арганізацыі усе здольныя сілы даўно ўжо вышлі, трапіўшы часткай у паслы, часткай апынiўшыся ў Радавай Беларусі, а часткай проста адкалоўшыся ад Камітэту. У сучасны момэнт В. Б. Нац. Камітэт праз свай орган „Сын Беларуса“ вядзе зусім адкрытую прапаганду на карысьць Радавай Беларусі. Можа здацца, што навет некаторыя самы паважаныя паны паслы адмовяцца ад сваей быўшай alma mater. Ну, а нам з гэтай арганізацыяй ужо ад даўных часоў не па дарозе. І вось перад намі прыкры факт. На тэрыторыі Польскай Рэспублікі з беларускім насяленьням ў 4 мільёны, беларусы ня маюць ніводнага адпаведнага прадстаўніцтва, якое магло-б знайсьці агульную мову супольнага паразуменьня, як з польскім урадам, так і з польскім арганізованым грамадзянствам. А гадзіна падышла надта паважная і адказная. З аднаго боку Заходняя Беларусь пачынае рабіцца арэнай розных закардонных экспэрымэнтаў: ідзе цёмнай хмарай бальшавіцкая прапаганда, насылаюцца з Менску партызаны, ідзе разбой, грабеж, падпалы. Сялянства падбіваецца безадказнымі агітатарамі да небясьпечнай дзейнасьці, якая і для сялянства і наогул для усэй беларускай справы можа мець надта прыкрыя рэзультаты.

З другога боку падыходзіць актуальная праца. На падставе новага закону аб мовах меншасьцяў, а далей аб самаўрадзе, адкрываецца шырокае поле, для культурна прасьветнай працы і грамадзкай дзейнасьці У хуткім часе павінны быць мобілізованы ўсе беларускія інтэлігэнтныя сілы да дружнай працы на роднай ніве. А значыць, патрэбен кіраўнічы цэнтр, патрэбна палітычна-нацыянальная установа, якая, стаўшы на цьвёрдым грунце нацыянальнай сьвядомасьці, знайшла б адначасна зразумелую супольную мову з уладай, дзеля хуткага і безбалючага правядзеньня ў жыцьцё карысных і гэтак доўга чаканых законаў. Зусім ясна, што ня польскае грамадзянства ці ўлада будзе тварыць беларускую справу сваймі рукамі: гэта павінны рабіць самі беларусы і толькі яны адны. Вяртаючыся зноў да нэгатыўнай крытыкі трохі абмылковага пратварэньня „Бел. Грам. Сабраньня“ ў палітычную арганізацыю, перайдзем да позытыўных вывадаў. Дзеля таго, што Бел. Грам. Сабраньнем была зроблена ініцыятыва для стварэньня вышэйпаданай, жыцьцёва-патрэбнай, палітычнай арганізацыі і прымаючы пад увягу палітычнае credo Бел. Гр. Сабраньня, выявіўшага яго на шпальтах свайго органу „Грамадзкі Голас“ у галоўным постуляце аб аўтаноміі Беларусі, як праграме minimum, крокі зробленыя ў гэтым кірунку Грамадзянскім Сабраньнем трэба лічыць надта пажаданымі. Але трэба, каб, ў даным выпадку, Бел. Гр. Сабраньне было толькі ініцыятарам, арганізацыйнай групай у стварэньні гэтай палітычнай арганізацыі, гэта першае. Другое, што пры самым тварэньні арганізацыі ня трэба запамятаваць, што ў справах агульна-беларускіх бязумоўна павінны ўзяць удзел усе арганізованыя часткі Заходняй Беларусі, а не адна толькі Віленшчына. Ці будзе гэта зроблена шляхам агульнага зьезду, ці прысылкай паасобных дэлегаваных прадстаўнікоў, няхай гэтае рашае само Б. Гр. Сабраньне, ў залежнасьці ад магчымасьцяў. Пачын зроблены ў гэткай форме мы—беларусы Навагрудчыны—будзем толькі вітаць, бо толькі такім шляхам створаная арганізацыя будзе мець запраўдную й сілу і аўторытэт.

*А. Паўлюкевіч.*

Сіняука. Павет Нясьвіскі.
19. IX. 24 г.

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы пісьмо п. Паўлюкевіча, мы лічым неабходным даць на яго адказ.

Палітычная сытуацыя змусіла Беларускае Грамадзянскае Сабраньне выступіць на палітычны шлях, бо ў той час ня было ніякай іншай палітычнай інстытуцыі, якая магла-б гэтую працу павесьці. Выяўленае праз газэту „Грамадзкі Голас“ палітычнае „credo“ дайшло да сваей мэты.

Якраз цяпер стварылася Часовая Беларуская Рада, якая і павядзе далей палітычную працу, пачатую Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем.

---

## Навіны у тры радкі.

— З Індыі даходзяць весткі аб вялікіх паводках. Трэцяя часьць места Баратпур, сталіцы провінцыі гэтага самага пазову, зьнішчана. Значныя ахвяры ў людзях.

— Паводлуг Расейск. Тэлегр. Аг. 20 жніўня расейскі карабель уваткнуў на востраве Врангэля расейскі сьцяг.

— 18 гэтага верасьня ў Грацы адчыніўся 6-ты міжнародны конгрэс барацьбы з гандлем жывым таварам. На конгрэсе ёсьць дэлегаты мала што ня ўсіх дзяржаваў сьвету.

— Як паведамляюць з Баку, тамака гарыць 35 нэфтавых фантанаў. Шкода дасягае пекалькіх мільёнаў рублёў.

— Ленінградзкі губ. суд засудзіў на расстрэл эс-эра Стрылічэнку, працаваўшага з 1914 году ў ахранцы.

— Землятрасеньне, быўшае ў Эрзэруме 13 верасьня, нарабіла вялізнай руйнацыі. 102 сёлы саўсім зьніштожаны. Загінулі сотні людзей. Урад і Чырвоны Паўмесяц арганізавалі падмогу.

— Тайфун выклікаў у Японіі паводкі. Каля сту чалавек загінула. У адным мястэчку вокругу Сайдама не далічваюцца 300 чалавек. 40000 дамоў заліта вадою.

---

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

═ **Беларуская конфэрэнцыя.** У нядзелю 21-га гэтага верасьня ў Беларускім Грамадзянскім Сабраньні адбылася конфэрэнцыя прадстаўнікоў беларускіх дэмакратычных партыяў, арганізованага сялянства і інтэлігэнцыі, якая пасьля прыняцьця пастановы аб склікаьні зьезду Зах. Беларусі прыступіла да выбару Часовай Беларускай Рады, ў склад якой увайшлі гэткія асобы: С. Валэйша, Ус. Більдзюкевіч, д-р А Паўлюкевіч, Я. Салавей, Г. Канапацкі, інжынер В. Сьвятаполк-Мірскі, В. Шышкоў, Лапа-Старжынецкі, А. Кабычкін.

Прэзыдыум рады складаецца з Старшыні А. Паўлюкевіча, віцэ-старшыняў У. Більдзюкевіча і Г. Канапацкага і сэкрэтароў А. Кабычкіна і В. Шышкова.

У склад прэзыдыуму з пастанаўляючым голасам уваходзіць прэзэс Беларускага Грамадзянскага Сабраньня С. Валэйша.

Конфэрэнцыя выказала падзяку Беларускаму Грамадз. Сабраньню за праяўленую ім ініцыятыву па скліканьню конфэрэнцыі.

═ **Беларуская дэлегацыя ў п. Дэлегата Ураду.** Учора, 23 верасьня, дэлегацыя Беларус. Конфэрэнцыі ў складзе грамадзян: Шышкова, Валэйшы, Більдзюкевіча і Кабычкіна на чале з д-рам Паўлюкевічам мела гадзінную аудыенцыю ў Дэлегата Ураду на Віленшчыну п. Рачкевіча. Вітаючы п. Дэлегата, д-р Паўлюкевіч падкрэсьліў цяжкую палітычную сытуацыю на акраінах, заявіўшы ад імя беларускай конфэрэнцыі, што яна папераджае Польскі Урад аб неабходнасьці прыняцьця ў найхутчэйшым часе адпаведных крокаў для санацыі акраіннага жыцьця. Заява гэта была выслухана п. Дэлегатам прыхільна. П. Дэлегат абяцаў шырокае падтрыманьне намечанай беларускаю конфэрэнцыяю працы, пакольні гэта ад яго залежыць.

═ **Проці вайны.** 21-га гэтага верасьня ў Вільні адбыліся два мітынгі пад лёзунгам „Вайна—вайне“. Польская Соцыялістычная Партыя зрабіла мітынг у Меставой Залі, дзе выступаў пасол Плаўскі і інж. Чыж. Апошні гаварыў галоўным чынам аб паўстаньні ў Грузіі і ў канцы прачытаў прынятую сабранымі рэзолюцыю, ў якой выказана спачуваньне геройскаму грузінскаму народу, што борацца за сваю незалежнасьць. Пасьля выступіў п. Плаўскі. Ен гаварыў аб савецкім імпэрыялізьме, а затым аб нацыянальных меншасьцях у Польшчы, проці якіх эндэкі, як назваў іх п. Плаўскі, вядуць цкаваньне. Гэтым самым эндэкі робяць Рэспубліцы медзьвяжачую паслугу, бо Польшча зьяўляецца дзяржавай, у якой нац. меншасьці складаюць 1/3 усяго насяленьня. У выпадку нападу на Рэспубліку, беларусы, украінцы, жыды і іншыя нац. меншасьці толькі тады будуць з радасьцю біцца побач з польскім жаўнерам, калі Польшча будзе для ўсіх маткаю, а ня мачахай.

У Польскім Рабочым Доме выступалі п. п. Годвод, Заштаўт, доктар Дробнэр (з Кракава) і д-р Крук (з Варшавы). Парадак нідзе ня быў парушаны.

═ **Прызыў 1903 году.** Офіцыяльна устаноўлены срок прызыву рэкрутаў, якія радзіліся ў 1903 г. — паміж 1—7 кастрычніка гэтага году. Прызыўныя гэтай катэгорыі адтрымаюць пісьменныя павесткі зьявіцца ў назначаны дзень у Р. К. U.

═ **Звальненьне прызыўных 1902 году.** Лішка прызыўных, якія радзіліся ў 1902 г., звольнена са службы, за выняткам коннае артылерыі і кавалерыі. Поўнае звальненьне са службы радзіўшыхся ў 1902 годзе адбудзецца ў канцы верасьня.

---

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактару!*

Не адмоўце надрукаваць ніжэйпаданае:

17 верасьня, а 11 гадз. ўночы група хуліганаў, на чале якіх, як потым выяснілася, стаялі Гофман Вінцэнты і нейкі Казелло, акружыла мой фальварак Пэршукста, Міхайлаўскай вол. Сьвянцянск. пав. і рабіла спробу прабрацца ў двор, разьлічаючы напэўна, што на фальварку апрача двух безабаронных жанчын нікога няма. Але якраз памыліліся, бо ў гэты дзень у мяне ў гасьцёх было шмат суседзяў.

Прысутнасьць хуліганаў заўважыў адзін з фурманоў і заявіў мне, што нейкія людзі сядзяць у кустох.

Я пашоў паглядзець. Калі зайшоў у цень кустоў, то двох з гэтых паноў кінуліся да мяне, але на гэты час падасьпелі госьці мае, сярод якіх многа было маладых, быўшых вайсковых, і гэтыя суб'екты пачалі уцякаць. Паднялася страляніна з рэвальвэраў, кулі засвісьталі над нашымі галавамі.

Пасьля ўдалося устанавіць, што хуліганілі мясцовыя жыхары падпанкі, на чале якіх стаялі п. п. Гофман і Казелло. З якою мэтаю яны падбіраліся да майго фальварку устанавіць не ўдалося.

На другі дзень аб усім гэтым было даложана Старасьце Сьвянц. пав. п. Забежоўскаму, які абяцаў зрабіць усё, каб высвятліць гэтую гісторыю і пакараць вінаватых.

З пашанай

*В. Більдзюкевіч.*

---

# УСЯЧЫНА.

### Царскі гэнэрал сторажам.

Гэнэрал Васіль Чэслаўскі, быўшы камандзер палку гвардзейскіх кірасіраў, цяпер мае пасаду начнога стоража на заводах Western Electric у Чыкаго. Гэнэрал спаўняе свае абавязкі як сьлед і навет нядаўна адтрымаў 10 даляраў месячнай падвышкі. Гэнэрал заўсёды зьяўляецца на службу ня інакш, як з усімі сваімі ордэнамі на грудзёх.

---

### У прыдворнай карэце.

Вядомая камуністка Калантай, якая прапагуе новую мораль, а фактычна адсутнасьць усякай моральнасьці, нядаўна была прынята ў трыумфальнай аудыенцыі нарвэскім каралём Гааконам. Як паведамляюць газэты, прынятак гэты адбываўся са звычайным цэрэмоніялам. Гофмаршал спаткаў Калантай і прывёз яе ў палац у прыдворнай карэце.

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей. Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.